№6 (189)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Сакавік 2015 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**На 1 марта золотовалютные резервы Беларуси составили всего 4651,2 млн. долларов.**

Золотовалютные резервы Беларуси в феврале упали на $73,5 млн. после снижения на $334,4 млн. в январе и на 1 марта составили 4651,2 млн. долларов, сообщает Национальный статистический комитет РБ.

С начала года уровень ЗВР снизился на $407,9 млн. На 1 января 2015 года их объем составлял 5059,1 млрд. долларов.

**Беларусь патраціла на абслугоўванне знешняга доўгу 11 млрд. долараў.**

Беларусь патраціла ў 2014 годзе на абслугоўванне знешняга доўгу 11 млрд. 57 млн. 200 тысяч долараў. Гэта — 14,6% валавога ўнутранага прадукту, альбо больш за 25% экспарту тавараў і паслуг, інфармуе БЕЛТА.

Адзначаецца, што калі па асноўным доўгу было запланачана 9,6 млрд долараў, дык па адсотках — 1,4 млрд долараў.

За мінулы год валавы знешні доўг Беларусі павялічыўся на 1,1% (у 2013-м было 15,9%). На пачатак 2015-га ён складаў 40 млрд. 61 млн. 400 тысяч долараў.

### У Прыдняпроўі

**За январь 2015 г. убыточными были 211 организаций Могилёвской области,** или 24,9% от общего количества организаций, учитываемых в текущем порядке (за январь 2014 г. – 120 организаций, или 14,2%). Сумма чистого убытка убыточных организаций за январь 2015 г. составила 5 800,6 млрд. рублей, или в 25,3 раз больше, чем за январь 2014 г.

### У раёне

Па інфармацыі раённага аддзела ЗАГС у студзені-лютым 2015 года ў Бялыніцкім раёне нарадзілася 29 дзетак, за першыя два месяцы 2014 года - 37.

З жыцця пайшлі 66 чалавек, за аналагічны леташні перыяд памерла 74 жыхары Бялыніччыны.

# АБВЯШЧЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

***25 САКАВІКА - ДЗЕНЬ ВОЛІ***



Лозунг **Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР)** упершыню прагучаў у 1917 г. на Усебеларускім з’ездзе ў Менску. Незалежніцкія настроі ў беларускім руху ў значнай ступені былі выкліканы палітыкай Часовага ўрада Расеі, які не хацеў лічыцца з патрабаваннем беларускіх арганізацый аб наданні Беларусі статуса аўтаноміі ў складзе Расейскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі, а таксама палітыкай Савета Народных Камісараў Расеі, які вёў перагаворы з Германіяй аб лёсе Беларусі без удзелу ў іх прадстаўнікоў беларускага народа. Незалежніцкія тэндэнцыі ўзмацніліся пасля разгону Усебеларускага з’езда і пасля таго, як у студзені 1918 г. III Усерасейскі з’езд Саветаў ухваліў гэты разгон.

На тэрыторыі Беларусі, акупаванай Германіяй, ідэю незалежнасці ў 1915 г. пачала выпрацоўваць Беларуская сацыял-дэмакратычная работніцкая група (БСДРГ). Яна выказалася за стварэнне беларуска-літоўскай дзяржавы ў форме Канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага. У студзені 1918 г. У Вільні была праведзена Беларуская канферэнцыя. Пасля абвяшчэння незалежнасці Летувы (люты 1918) Віленская беларуская рада (ВБР), абраная на канферэнцыі, стала цалкам на незалежніцкія пазіцыі, але ўсё роўна не адмаўляла ідэю канфедэрацыі Беларусі і Летувы. 19.3.1918 г. ВБР абвясціла “сувязь паміж Расеяй і Беларусяй парванай” і звярнулася да заходніх дзяржаў з просьбай дапамагчы ў “справе адбудовы колішняга Літоўска-Беларускага гаспадарства”.

Пасля таго як Л.Д. Троцкі сарваў мірныя перагаворы ў Брэсце, Германія 18.2.1918 г. пачала наступленне на ўсход. Аблвыкамзах і СНК Заходняй вобласці і фронту 19.2.1918 г. з Менску ўцяклі ў Смаленск. З турмы выйшлі дзеячы Цэнтральнай беларускай вайсковай рады (ЦБВР), якія навялі парадак у горадзе. Аднавіў сваю дзейнасць Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з’езда. 20.2.1918 г. ён прыняў 1-ю Устаўную грамату да народаў Беларусі і стварыў першы ўрад Беларусі - Народны Сакратарыят на чале з Язэпам Варонкам. Хоць Выканком Рады Усебеларускага з’езда і аб’явіў сябе часовай уладай на Беларусі, фармальна беларуская дзяржава абвешчана не была. У Выканкоме строга прытрымліваліся рэзалюцыі Усебеларускага з’езда, паводле якой Беларусь павінна была ўваходзіць у склад Расейскай дэмакратычнай рэспублікі як аўтаномная адзінка з рэспубліканскім ладам.

Незалежніцкія тэндэнцыі ў беларускім руху ўзмацніліся пасля падпісання і ратыфікацыі Савецкай Расеяй Брэсцкага міру 1918 г. Бальшавікі парушылі дадзенае Троцкім у час работы Усебеларускага з’езда абяцанне, што лёс Беларусі не будзе вырашацца без удзелу яе прадстаўнікоў. 9.3.1918 г. Выканком Рады Усебеларускага з’езда прыняў 2-ю

*(Працяг на стар. 4)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# “ПЯСЕЦ” ПАДКРАЎСЯ НЕЧАКАНА

***Белстат апублікаваў шакуючыя дадзеныя пра фінансавыя вынікі працы беларускіх кампаній у студзені 2015.***




Чыстыя страты амаль 8000 кампаній краіны склалі за месяц 42,9 трыльёна рублёў, гэта $2,98 мільярда ў эквіваленце. У справаздачу не ўваходзяць банкі, страхавыя і бюджэтныя арганізацыі, а таксама дробны бізнэс, паведамляе газета “Наша ніва”.

Стратнымі былі 28,6% кампаній. Кожная з іх у сярэднім згубіла за студзень па $1,7 мільёна.

Для параўнання, год таму беларускія кампаніі мелі чысты прыбытак памерам каля $260 мільёнаў.

«Львіная доля – страты на курсавой розніцы, — тлумачыць эканаміст Сяргей Чалы. – Гэта бухгалтарскія страты, якія можна будзе спісаць цягам двух гадоў у любым графіку, змяншаючы прыбытак».

І хоць эканаміст падкрэслівае, што гэта вынік курсавой розніцы, а не ўмоў гаспадарання, беларускім прадпрыемствам ад гэтага не лягчэй, бо яны ў любым выпадку сталі нашмат бліжэй да банкруцтва.

Згодна прагнозаў місіі МВФ, у 2015 годзе спад эканомікі Беларусі складзе два працэнты і ў бліжэйшыя пяць гадоў тэмпы роста эканомікі краіны застануцца вельмі нізкімі, калі ўлады не пачнуць структурныя рэформы.

Здаецца, што тут слухаць гэтых “праклятых буржуінаў” з іх негатыўнымі прагнозамі, калі мы самі вельмі разумныя і прагнозы ў нас нашмат лепшыя – сэрца радуецца, калі ўзгадваеш, як пяць гадоў таму перад прэзідэнцкімі выбарамі нечуваны росквіт эканомікі краіны і сярэдні заробак у 1000 буржуінскіх зялёных паперак у 2015 годзе нашы высокія чыноўнікі абяцалі. Ну не атрымалася, эканоміка ў поўным азадку, а заробак да 400 долараў не дацягвае, затое як прыемна было цікавыя казкі слухаць.

А гэтыя ж капіталісты з МВФ яшчэ ўсё пужаюць поўным ступарам квітнеючай эканомікі Беларусі, калі беларускія ўлады працягнуць рухацца цяперашнім курсам. І, на жаль, даводзіцца гэтых свалачугаў слухаць, бо інакш яны не дадуць новы крэдыт і тады нашаму квітненню можа прыйсці поўны “пісец”.

Бо, паважаныя чытачы, за апошнія гады наша квітнеючая краіна нахапала столькі крэдытаў, што сукупны знешні доўг Беларусі склаў больш за 40 мільярдаў долараў і штогод Беларусь вымушана аплачваць каля 500 мільёнаў долараў адсоткаў толькі за карыстанне пазычанымі грашыма. Наогул жа кожны год патрэбна выплачваць каля чатырох мільярдаў зялёных грошай на пагашэнне і абслугоўванне пазыкаў.

*(Заканчэнне на стар. 8)*

## АНДРЭЙ МАКАРЭВІЧ ЗАПІСАЎ СВАЮ ПЕРШУЮ ПЕСНЮ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ Ў ПЕРАКЛАДЗЕ БЯЛЫНІЦКАГА МУЗЫКІ

**Лідар расійскага гурта “Машина времени” Андрэй Макарэвіч запісаў для праекта “Global Reload” грамадскай кампаніі “Будзьма беларусамі!” і партала Tuzin.fm сваю першую песню на беларускай мове. Яна мае назву “Снег”.**

“Па-беларуску вельмі цікава паспрабаваць, бо гены ўсё ж такі маю, — цытуе словы Макарэвіча сайт budzma.by. — Я вельмі добра памятаю моцны беларускі акцэнт маёй бабулі... Для мяне гэта паклон маім продкам, якіх ужо няма на свеце... Я вельмі люблю Беларусь, у мяне тут шмат сяброў”.

Паводле слоў Макарэвіча, песню “Снег” у арыгінале ён запісаў яшчэ ў 1970-я. На беларускую мову яе пераклаў бялынічанін Юрый Несцярэнка. Яна была запісаная Андрэем Макарэвічам разам з музыкамі з гурта Apple Tea.

Музыка з Бялыніч Юрый Несцярэнка пераклаў на беларускую мову цэлы шэраг песняў “Машины времени”: «Каждый правый», «Снег», «Не дай мне упасть», «День гнева», «Звезды не ездят в метро» і іншыя творы.

Нагадаем, што бацька Андрэя Макарэвіча паходзіць з Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці (продкі маці — з Віцебшчыны). Некалькі гадоў таму музыкант ездзіў на сваю малую радзіму.

## За два месяца ў Беларусі цэны выраслі на 4,1%

**У лютым інфляцыя склала 1,7%.**

У Беларусі ў студзені-лютым 2015 года цэны выраслі на 4,1% (у лютым інфляцыя склала 1,7%). Найбольш падаражэлі садавіна (на 36,4%) і гародніна (на 32,2%). Кошты на бульбу сёлета выраслі больш чым на 12%.

За першыя два месяца 2015-га рыба і морапрадукты падаражэлі на 14,4%, гарбата — на 8%.

Што да платных паслугаў, дык з пачатку года цэны на іх выраслі на 6%.

# КРУГЛАЕ: РАЙВЫКАНКАМ ПАТРАБУЕ ПЕРАЛІЧЫЦЬ ГРОШЫ ЗА “ДЗЕНЬ БЕЗАПЛАТНАЙ ПРАЦЫ”

***Круглянскі райвыканкам патрабуе ад мясцовых прадпрыемстваў і арганізацый, каб яны пералічылі грошы, заробленыя іх працаўнікамі ў “дзень безаплатнай платы” 25 лютага, на разліковы рахунак райвыканкама.***




Адпаведнае распараджэнне з пазначэннем грашовых сум атрымалі дзяржаўныя і прыватныя прадпрыемствы Круглянскага раёна.

Па словах грамадскай актывісткі з Круглага Зінаіды Мілешчанка, працоўныя людзі абураныя паборамі з боку мясцовай улады, аднак уголас свой пратэст выказваць баяцца.

Актывістка паведаміла, што яна, з дапамогай прафсаюза РЭП, збіраецца накіраваць запыт у дзяржаўныя органы запыт наконт законнасці правядзення ў Круглым “Дня безаплатнай працы”.

25 лютага ў Круглянскім раёне быў праведзены “Дзень безаплатнай працы на працоўных месцах”.

Дзень безаплатнай працы быў праведзены згодна рашэння Круглянскага райвыканкама ў мэтах прыцягнення грашовых сродкаў для выканання работ па добраўпарадкаванні г. п. Круглае і ў сувязі з правядзеннем абласнога фестываля-кірмаша працаўнікоў вёскі “Дажынкі – 2015”, “па прапанове працоўных калектываў”.

Круглянскі райвыканкам рэкамендаваў арганізацыям, прадпрыемствам і ўстановам да 10 сакавіка 2015 года пералічыць грашовыя сродкі, заробленыя ў Дзень безаплатнай працы на працоўных месцах, “у дабраахвотным парадку на пазабюджэтны рахунак Круглянскага раённага выканаўчага камітэта, у межах сум, згодна дадатку”.

Згодна рашэння Магілёўскага аблвыканкама, абласныя “Дажынкі” у 2015 годзе пройдуць восенню ў гарадскім пасёлку Круглае. У межах падрыхтоўкі да “фестывалю” ў раёне ўжо пачаліся працы па навядзенні парадку на зямлі – высякаецца кустоўе і хмызняк паабапал дарог, разбураюцца закінутыя хаты ў вёсках, выразаюцца дрэвы ў гарадскім парку. Грошы на навядзенне “фестывалю” ў мясцовым бюджэце не хапае, таму круглянскія чыноўнікі ў чарговы раз пастанавілі вырашыць свае праблемы за кошт простых працаўнікоў раёна.

Мясцовыя жыхары вельмі адмоўна ставяцца да ініцыятывы ўладаў аб правядзенні “дней безаплатнай працы”, аднак нейкім чынам выказваць сваё незадавальненне не рызыкуюць, бо баяцца згубіць з-за гэтага працу. Між тым знайсці нейкае новае працоўнае месца ў Круглянскім раёне вельмі цяжка - па афіцыйных дадзеных, “эканамічна неактыўнае насельніцтва з ліку людзей працаздольнага ўзросту” па стане на восень 2014 г. складае каля 1859 чалавек. Працоўныя вымушаны цярпець своеасаблівы “рэкет” з боку мясцовых чыноўнікаў і выконваць за кошт сумленна заробленых уласных грошай іх загады.

У Круглянскім раёне за апошнія гады перасталі працаваць льнозавод, маслазавод, хлебзавод, райспажыўсаюз, сельгасхімія, Ракушыцкая птушкафабрыка, цагляны завод, Круглянская школа-інтэрнат, рэарганізавана шэраг калгасаў і саўгасаў. Фактычна адзінае прадпрыемства ў райцэнтры, якое стабільна працуе - гэта мясцовае будаўнічае ПМК -266. Аднак і там працаўнікі скардзяцца, што апошнім часам значна знізіліся заробкі.

***Барыс Вырвіч***

***У працяг тэмы:***

## РЭКЕТ ПО-КРУГЛЯНСКИ

Это слово пришло к нам из российских фильмов. По крайней мере, в нашем маленьком тихом районе бандюки не ходили по торговым точкам и палаткам на рынке, и не требовали дань. Люди не привыкли к этому явлению, поэтому так ещё возмущены поборами местной властью работающие круглянцы. Возмущены, но смелости для протеста нет даже в органах правопорядка, которые, конечно же, знают о незаконности такого данеобложения. Проще промолчать, чем потребовать соблюдения законности, тем более что и из суда, и из прокуратуры мзда взыскивается чисто символически.

Конечно, можно было бы сказать, что районное руководство собирает с «мира по нитке» и в этом нет большого криминала, но всякое, даже маленькое, нарушение законности от представителей власти влечёт за собой разрушение, как таковое. Как мыльный пузырь накапливается раздражение тем, что не соблюдаются даже элементарные правила игры. В организациях не проведено ни одно собрание, даже формально нет оснований взыскивать с работников денежные средства. Это говорит о том, что чиновники ленятся выполнять свои обязанности. А уж куда

*(Окончание на стр. 8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# АБВЯШЧЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

*(Працяг. Пач на стар. 1)*

Устаўную грамату да народаў Беларусі. Цяпер краіна фармальна абвяшчалася Беларускай Народнай Рэспублікай. Закладваўся канстытуцыйны лад яе як дэмакратычнай дзяржавы. Уся паўната ўлады перадавалася Радзе Усебеларускага з'езда. У гэтым акце нічога не гаварылася пра адносіны БНР з іншымі дзяржавамі. 18.3.1918 г. Рада Усебеларускага з'езда была ператворана ў Раду БНР. Антон Луцкевіч прапанаваў Народнаму Сакратарыяту абвясціць незалежнасць БНР.

25.3.1918 г. была прынята 3-я Устаўная Грамата (яе тэкст датаваны 24.3.1918). З гэтага часу Беларусь абвяшчалася незалежнай і свабоднай дзяржавай, якая ўзаконіла заваёвы Лютаўскай і часткова (передача зямлі сялянам без выкупу) Кастрычніцкай рэвалюцый у Расеі. Незалежнасць БНР не адпавядала інтарэсам суседніх дзяржаў. Германія разглядала Беларусь як акупаваную расейскую тэрыторыю і заклад пад кантрыбуцыю, якую ёй абавязалася выплаціць РСФСР. Яшчэ 25.2.1918 г. нямецкія салдаты занялі будынак Народнага Сакратарыята, знялі з яго беларускі сцяг, у самім памяшканні зрабілі вобыск і забралі касу. Пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі германскія акупацыйныя ўлады пад пагрозай зброі разагналі Раду і Народны Сакратарыят, але іх сяброў не арыштавалі. У гэтых умовах урад БНР пачаў ствараць беларускі камандны склад, прызначыў Кастуся Езавітава спецыяльным камісарам для ваенных спраў і абвясціў аб узбраенні грамадзян. У пачатку красавіка 1918 г. нямецкія акупацыйныя ўлады заявілі, што яны забараняюць дзейнасць Народнага Сакратарыята.

Паводле сваіх сацыяльных поглядаў у апазіцыі да Рады і Народнага Сакратарыята знаходзіліся дзеячы "Менскага беларускага прадстаўніцтва", якія выступалі супраць нацыяналізацыі зямлі і за беларуска-германскае збліжэнне. Рада і Народны Сакратарыят, вымушаныя знешнімі абставінамі, пайшлі на аб'яднанне з імі. 12.4.1918 г. у склад Рады БНР былі кааптаваны сябры "Менскага беларускага прадстаўніцтва" на чале з Паўлам Алексюком, Раманам Скірмунтам і Аляксандрам Уласавым.



***Першы ўрад БНР - Народны Сакратарыят: (злева направа, сядзяць) Алесь Бурбіс, Іван Серада, Язэп Варонка (старшыня), Васіль Захарка; (стаяць) Аркадзь Смоліч, Пётра Крэчэўскі, Кастусь Езавітаў, Антон Аўсянік, Лявон Заяц***

Карыстаючыся тым, што нямецкія акупацыйныя ўлады не спынялі варожай дзейнасці ў дачыненні да Рады, Аляксюк, Скірмунт і іншыя дамагаліся свайго. 25.4.1918 г. на імя кайзера Вільгельма II была накіравана тэлеграма, якую, акрамя іх, падпісалі таксама старшыня Рады БНР Іван (Янка) Серада, старшыня Народнага Сакратарыята Язэп Варонка, сябры Рады Антон Аўсянік, Пётра Крачэўскі і Язэп Лёсік. Падпісаныя ад імя ўсёй Рады заявілі, што добрую будучыню Беларусі яны бачаць "толькі пад апекай германскай дзяржавы". Гэта з'явілася штуршком да расколу Беларускай Сацыялістычнай грамады (БСГ) і крызісу ўрада БНР. У пачатку мая 1918 г. з урада БНР выйшлі сацыяліст-дэмакрат А.А. Смоліч, сацыялісты-рэвалюцыянеры Палута Бадунова, Тамаш Грыб і Лявон Заяц. Была створана часовая Рада пяцёх, у склад якой увайшлі сацыялісты-федэралісты на чале з Я. Варонкам. Выкарыстаўшы адсутнасць у Менску значнай часткі сяброў Рады БНР - сацыялістаў, правыя здолелі адхіліць Раду пяцёх і стварыць новы ўрад БНР на чале са Скірмунтам. Такім чынам з'явіліся два ўрады БНР. Гэта выклікала абурэнне левых. У чэрвені на пленарным пасяджэнні Рады БНР быў створаны кааліцыйны ўрад на чале з Я. Серадой, у які ўвайшлі правыя і левыя. Старшынёй Рады БНР стаў Я.Ю. Лёсік.

Рада і Народны Сакратарыят БНР прыкладалі намаганні для арганізацыі беларускіх нацыянальных інстытутаў у цэнтры і ў правінцыі. 27.3.1918 г. была абвешчана пастанова Рады пра тое, што яна бярэ ўсю паўнату ўлады ў краіне. 20.4.1918 г. прыняты наказ мясцовым беларускім радам аб асновах выбараў у сельскія, валасныя, павятовыя, местачковыя, гарадскія і губернскія рады, якія павінны былі пераняць ад акупацыйных улад кіраванне пэўнымі галінамі гаспадарчага і культурнага жыцця. Пасля таго, як у Радзе і Нацыянальным Сакратарыяце БНР умацаваліся пазіцыі правых, палешпыліся адносіны да гэтых органаў з боку камандавання 10-й арміі рэйхсвера, якая дыслацыравалася на тэрыторыі Беларусі, хоць берлінскі ўрад па-ранейшаму ставіўся да БНР адмоўна. 27.5.1918 г. камандуючы 10-й арміяй генерал Э. Фалькенгайн прыняў прадстаўнікоў Рады і Народнага Сакратарыята. Каб змягчыць адносіны паміж акупантамі і насельніцтвам, ён хацеў бачыць у асобе Рады пасрэдніка паміж нямецкімі ўладамі і

*(Працяг на стар. 5)*

# АБВЯШЧЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

*(Працяг. Пач на стар. 1, 4)*

беларускім народам. Дзеля дасягнення гэтай мэты 21.6.1918 г. нямецкае камандаванне дало, у прыватнасці, згоду па ўтварэнне пры павятовых камендатурах інстытутаў дарадчыкаў. Пасля таго як у чэрвені 1918 г. урад БНР аб'явіў нядзейнымі на тэрыторыі рэспублікі дэкрэты і пастановы ўрада РСФСР, акупацыйныя ўлады перадалі ў кампетэнцыю Народнага Сакратарыята гандаль, прамысловасць, сацыяльную апеку, асвету і культуру.

Найбольшых поспехаў БНР дасягнула ў развіцці асветы і культуры. Пасля абвяшчэння БНР Народны Сакратарыят прыняў пастанову аб дзяржаўным статусе беларускай мовы. У Менску працавала беларуская гімназія на чале з дырэктарам У.І. Самойлам. Падрыхтоўка настаўнікаў вялася ў Менскім педагагічным інстытуце, у якім выкладалі В.Л. Іваноўскі, У.М. Ігнатоўскі, Я.Ф. Карскі і іншыя. Для перападрыхтоўкі настаўнікаў працавалі курсы беларусазнаўства заснаваныя 3.4.1918 г. у Менску. Лекцыі тут чыталі Варонка, Грыб, Ігнатоўскі, Лёсік, Смоліч і іншыя. У красавіку 1918 г. заснавана Менская вышэйшая музычная школа, якая ў тым жа годзе была перайменавана ў Беларускую кансерваторыю. Была адкрыта таксама каталіцкая духоўная семінарыя. Рэктар яе - доктар філасофіі ксёндз Ф. Абрантовіч. У красавіку 1918 г. створана падрыхтоўчая камісія для адкрыцця Беларускага універсітэта ў Менску. У планах урада БНР было таксама адкрыццё сельскагаспадарчага і політэхнічнага інстытутаў. Пры ўрадзе БНР былі заснаваны бюро для падрыхтоўкі падручнікаў і выдавецтва "Прасвета". Друкаванне падручнікаў пачалося у 1915 г. выдавецтвамі Беларускага народнага камітэта і Вацлава Ластоўскага. Па ініцыятыве Івана Луцкевіча ў 1918 г. створана першая беларуская навуковая ўстанова - Беларускае навуковае таварыства ў Вільні. На аснове калекцый І.І. Луцкевіча ў Вільні і Менску была праведзена першая мастацкая выстаўка. Аднаўляла сваю дзейнасць Беларускае выдавецкае таварыства. Працавалі таксама выдавецтвы Народнага Сакратарыята БНР, выдавецкія таварыствы "Бацькаўшчына", "Крыніца". Пачалі выходзіць і газеты. Пад апекай урада БНР працавала створанае Ф. Ждановічам Першае таварыства беларускай драмы і камедыі з хорам (кіраўнік У.В. Тэраўскі), аркестрам народных інструментаў (кіраўнік З. Захар) і танцавальнай групай, якую ўзначальваў Ч.І. Родзевіч, а таксама "Беларуская хатка", дзе ладзіліся спектаклі і канцэрты. 19.5.1918 г. на Ляхаўцы ў Менску быў адкрыты Беларускі народны дом імя М. Багдановіча, які стаў сядзібай Беларускага дзяржаўнага тэатра БНР, утворанага на базе Першага таварыства беларускай драмы і камедыі. У БНР разгортваўся масавы культурна-асветны рух.

Народны Сакратарыят дамагаўся міжнароднага прызнання БНР. У чэрвені 1918 г. дэлегацыю БНР на чале са Скірмунтам наведала з візітам Кіеў. Урад Украіны прызнаў беларускую дзяржаву. Консульства было адкрыта таксама ў Летуве. Консульскія функцыі ў Маскве выконваў А.Л. Бурбіс. Дыпламатычныя місіі былі накіраваны таксама ў Варшаву, Берлін, Берн, Капенгаген. Грамадзяне БНР атрымлівалі пашпарты, у тым ліку дыпламатычныя. Дзейнічалі беларускія прэс-бюро і карэспандэнцкія пункты.

У 1918 г. у якасці дзяржаўных былі ўзаконены бела-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня". У 1919 г. М. Касцевіч (Макар Краўцоў) напісаў ваяцкі марш "Мы выйдзем шчыльнымі радамі...", які ў 1920 г. стаў гімнам БНР.

Поспехі ў дзяржаўным кіраўніцтве былі абмежаваныя, таму што Германія замінала развіццю беларускай дзяржаўнасці.

Няўдачы Германіі, магчымы хуткі прыход бальшавікоў штурхнулі да Рады БНР прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей, іх правых партый. У канцы верасня 1918 г. у склад Рады ўвайшлі выбарныя прадстаўнікі ад праваслаўнага духавенства, Менскага праваслаўнага брацтва, польскай нацыянальнай меншасці і рускіх кадэтаў. Рускія сацыялісты і Бунд паранейшаму выступалі супраць Рады. Абставіны патрабавалі, каб на чале ўрада стаў вядомы ў шырокіх колах чалавек. Старшынёй Народнага Сакратарыята быў прызначаны А.І. Луцкевіч. 11.10.1918 г. Рада зацвердзіла часовую канстытуцыю БНР. Народны Сакратарыят быў перайменаваны ў Раду Народных Міністраў. Яе ўзначаліў А.І. Луцкевіч, які меў таксама мандат міністра замежных спраў. У пачатку лістапада 1918 г. ён наведаў Маскву. Урад Луцкевіча гатовы быў увесці ў Беларусі савецкую канстытуцыю і ўстанавіць з РСФСР федэратыўную сувязь пры ўмове, што Савецкая Расея прызнае незалежнасць БНР. Урад Леніна не пагадзіўся з прапановамі Луцкевіча. Пасля Лістападаўскай рэвалюцыі ў Германіі, калі Расея дэнансавала Брэсцкі мірны дагавор, урад БНР звярнуўся да Антанты з просьбай увесці на Беларусь міжнародныя войскі. Адказу ён не атрымаў. 28.11.1918 г. адбылося апошняе ў гэтым годзе пасяджэнне Рады БНР у Менску. Была прынята Грамата з заклікам ствараць беларускія Рады сялянскіх і рабочых дэпутатаў. 3.12.1918 г. сябры Рады і ўрада БНР пераехалі ў Вільню. Наступленне Чырвонай арміі вымусіла кіраўніцтва БНР 27.12.1918 г. пераехаць у Гродна. Гэты горад лічыўся сталіцай БНР да верасня 1919 г., пакуль Рада БНР не вярнулася ў Менск. Асноўны кірунак дзейнасці Урада БНР у гэты час - барацьба супраць прэтэнзій Польскай дзяржавы на беларускія тэрыторыі і супраць прызыву беларусаў у Войска Польскае.

У красавіку 1919 г. Войска Польскае захапіла Вільню і Гродна. У Вільні Ю. Пілсудскі апублікаваў адозву да жыхароў былога Вялікага княства Літоўскага, у якой абяцаў, што ніякага націску з боку Польшчы не будзе, што народ сам вырашыць свае ўнутраныя справы - нацыянальныя і рэлігійныя. 8.8.1919 г. Войска польскае ўвайшло ў Менск. Пілсудскі выдаў новую адозву, у якой абяцаў, што Польшча і Беларусь будуць ладзіць свае адносіны як роўны з роўным, як вольны з вольным. У пачатку верасня 1919 г. у Менск пераехалі старшыня Рады БНР Лёсік, яго намеснік Смоліч, іншыя дзеячы. 18.9.1919 г. у Менск прыехаў

*(Працяг на стар. 6)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# АБВЯШЧЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

(Працяг. Пач. на стар. 1,4,5)




***Паштовая марка БНР***

Пілсудскі. Ён быў прывітаны ўсімі беларускімі партыямі, акрамя бальшавікоў. 19 верасня Лёсік і Смоліч накіравалі Пілсудскаму ліст, у якім прасілі яго згоды на аднаўленне працы Рады БНР, на паступовую перадачу цывільнай улады ўраду БНР, а таксама на арганізацыю беларускага войска.

Тое, што беларускія партыі віталі адозву Пілсудскага і яго самога, тлумачыцца таксама антыбеларускай палітыкай бальшавікоў. У час Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі (ССРБ) і Літоўска-Беларускай ССР (Літбела) ва ўсіх беларускіх школах была ўведзена руская мова навучання, беларускія газеты не выходзілі. Ва ўрад Літбела бальшавікі не дапусцілі ніводнага беларуса. У сакавіку 1919 г. ад Літбела былі адарваны і перададзены ў склад Расеі Дзісенскі і Рагачоўскі паветы, а 16.7.1919 г. прынята пастанова аб роспуску ўрада Літоўска-Беларускай ССР. Такім чынам, бальшавікі ліквідавалі нават прывідную беларускую савецкую дзяржаўнасць.

Ў канцы жніўня 1919 г. па запрашэнні прэм’ер-міністра Польшчы Падарэўскага старшыня Рады Народных Міністраў БНР А.І. Луцкевіч выехаў з Парыжа ў Варшаву. 1 верасня Луцкевіч прыехаў у Варшаву, аднак прэм’ер-міністр Польшчы з ім не сустрэўся. Толькі 22.10.1919 г. яго прыняў Пілсудскі. Ён раіў беларускаму прэм’еру ператварыць Раду БНР у Беларускую Нацыянальную Раду, заняцца школьніцтвам і г.д. Луцкевіч жа хацеў, каб Пілсудскі прызнаў права Беларусі на дзяржаўную самастойнасць. Сустрэча не дала практычных вынікаў.

1.12.1919 г. Луцкевіч, В.І. Захарка, Крачэўскі і іншыя сябры ўрада БНР прыехалі ў Менск. Сацыялісты-рэвалюцыянеры і сацыялісты-федэралісты абвінавачвалі сацыял-дэмакратычнае кіраўніцтва рэспублікі ў згодніцтве і здрадзе. 13.12.1919 г. адбыўся раскол Рады БНР на Найвышэйшую Раду БНР і Народную Раду БНР. Іх старшынямі сталі адпаведна сацыял-дэмакрат Лёсік і сацыял-федэраліст Крачэўскі. Былі створаны два ўрады БНР. Найвышэйшая Рада на чале кабінета пакінула А.І. Луцкевіча, Народная Рада прызначыла кіраўніком кабінета Ластоўскага. Польскія ўлады распарадзіліся аб разгоне Народнай Рады за ўзурпацыю паўнамоцтваў. Ластоўскага, Бадунову, Мамоньку кінулі ў астрог. Гэта выклікала абурэнне беларускай грамадскасці. Убачыўшы, што польскі ўрад не здольны прызнаць права Беларусі на дзяржаўную самастойнасць, 28.2.1920 г. А.І. Луцкевіч пакінуў пасаду старшыні Рады Народных Міністраў. Раней з Менску ў Берлін тайна выехалі старшыня Народнай Рады БНР Крачэўскі і яго намеснік Захарка. Толькі ў маі 1920 г. атрымалі дазвол выехаць з Менску ў Рыгу Ластоўскі, Бадунова, Грыб, Мамонька.

Перыяд паміж жніўнем 1919 г. і ліпенем 1920 г. адзначаны ажыўленнем беларускай культурна-асветнай работы. Працягваў дзейнічаць Менскі педагагічны інстытут. З друку выйшлі новыя падручнікі і дапаможнікі, у тым ліку “Кароткі нарыс гісторыі Беларусі” Ігнатоўскага, “Гісторыя беларускае літаратуры” М. Гарэцкага, “Геаграфія Беларусі” Смоліча. Было заснавана Менскае асветнае выдавецтва. У 1919-1920 гг. выходзілі ў Менску газеты “Звон” і “Беларусь”, часопісы “Беларускае жыццё”, “Рунь”. Быў адноўлены сельскагаспадарчы часопіс “Саха”. Устанавіла сваю працу ў “Беларускай хатцы” трупа Ф. Аляхновіча разам з хорам Тэраўскага. На аснове гэтых калектываў былі створаны Менскае таварыства працаўнікоў беларускага мастацтва і тэатр. У снежні 1919 г. аднавіў свае спектаклі Беларускі дзяржаўны тэатр, перайменаваны ў Беларускі нацыянальны тэатр. У кастрычніку 1919 г. Беларуская вучнёўская грамада стварыла пры тэатры Менскае таварыства працаўнікоў мастацтва, сваю драматычную секцыю, якая мела ўласны рэпертуар. Працавалі шматлікія беларускія гурткі мастацкай самадзейнасці. Міністэрства асветы БНР выпусціла для аматарскіх тэатраў зборнікі п’ес.

У 1919-1920 гг. БНР дэ-юрэ або дэфакта прызналі Германія, Латвія, Летува, Эстонія, Чэхаславакія, Балгарыя, Фінляндыя, Турцыя. У гэтых краінах працавалі беларускія дыпламатычныя і вайскова-дыпламатычныя місіі, консульствы і прадстаўніцтвы.

У канцы 1919 г. бальшавікі зразумелі, што ігнараваць нацыянальныя запатрабаванні беларусаў нельга. Гэта і тое, што ў саюзе з бальшавікамі змагаліся партызанскія атрады Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р) і Беларускай камуністычнай арганізацыі (БКА), вымусіла польскія кіруючыя колы пачаць у сакавіку 1920 г. перагаворы з Найвышэйшай Радай БНР.

Польская камісія, якая прыехала ў Менск, адхіліла 15 з 28 патрабаванняў Найвышэйшай Рады. На патрэбы беларускай школы і культуры замест абяцаных 30 млн. марак было асігнавана 10,7 млн. Дзейнасць Беларускай вайсковай камісіі (БВК) была практычна сабатавана польскімі ўладамі і некаторымі сябрамі камісіі. У чэрвені 1920 г. Найвышэйшая Рада патрабавала прызнаць незалежнасць БНР і да склікання Устаноўчага сойма аддаць Беларусь пад пратэктарат Лігі Нацый. Гэту прапанову падтрымліваў А.І. Луцкевіч, які знаходзіўся тады ў Вільні. Ён хацеў выехаць у Парыж, але палякі зноў не далі яму гэтага зрабіць.

Паралельна ўрад Ластоўскага шукаў кантакт з урадам РСФСР. Разглядаючы яго як саюзніка ў антыпольскай барацьбе, наркамат замежных спраў РСФСР запрасіў дэлегацыю ўрада ў Маскву. Яе ўзначаліў Захарка. 4.7.1920 г. пачалося наступленне

(Заканчэнне на стар. 7)

# АБВЯШЧЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ




*(Заканч. Пач. на стар. 1, 4-6)*

Чырвонай арміі на Заходнім фронце. Праз тыдзень яна ўступіла ў Менск. 12 ліпеня ўрад РСФСР заключыў дагавор з Летувой, паводле якога значная частка беларускіх зямель перадавалася ў яе склад. Гэта выклікала абурэнне і Найвышэйшай, і Народнай Рад. Надзея на тое, што БНР будзе прызнана Савецкай Расеяй, знікла. У адказ на гэта беларускія эсэры, якія супрацоўнічалі з КП(б)ЛіБ, БКА, Бундам і прафесійнымі саюзамі, адмовіліся падпісаць Дэкларацыю аб абвяшчэнні незалежнасці Беларускай ССР. Яны патрабавалі абвясціць поўную незалежнасць Беларусі ў яе этнічных межах, стварыць самастойнае беларускае войска і кааліцыйны сацыялістычны ўрад Беларусі. 20.10.1920 г. у Рызе адбылася палітычная канферэнцыя, у якой удзел узялі сацыялісты-рэвалюцыянеры, сацыялісты-федэралісты і прадстаўнік сацыял-дэмакратаў Аўсянік. Было вырашана стварыць вакол урада Ластоўскага адзіны нацыянальны блок. Сябар Прэзідыума Найвышэйшай Рады БНР К. Цярэшчанка ад яе імя прызнаў Народную Раду адзіным паўнамоцным прадстаўніком беларускага народа. Ад гэтага часу Народная Рада стала называцца Радай БНР.

Беларускія сацыялістычныя партыі разглядалі Польскія і расейскія войскі ў Беларусі як акупацыйныя. 11.11.1920 г. быў заключаны дагавор паміж БНР і Летувіскай Рэспублікай аб узаемным прызнанні, аб супрацоўніцтве і супольнай барацьбе за вызваленне беларускіх і літоўскіх зямель з-пад польскай акупацыі. Прэзідыум Рады БНР і ўрад Ластоўскага пераехалі ў сталіцу Летувы Коўна. У гэты час урад ставіў сваёй мэтай зрыў савецка-польскіх перагавораў у Рызе. Урадам краін Антанты, Балтыі, Скандынавіі, а таксама ўраду Германіі да сярэдзіны лютага 1921 г. было накіравана 26 мемарандумаў і дэкларацый. Адзінае, што далі намаганні ўрада БНР і яго дыпламатычных прадстаўнікоў, гэта тое, што Парыжская мірная канферэнцыя (студзень 1919 - студзень 1920) паставіла Польшчы ў абавязак паважаць правы нацыянальных меншасцей і запісаць адпаведнае палажэнне ў канстытуцыю Польскай Рэспублікі.

Такім чынам, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, першая спроба ўтварэння беларускай дзяржаўнасці мела вялікае гістарычнае значэнне. Абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі і дзейнасць яе Рады зрабілі ўплыў на развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа. Не дабіўшыся ўлады, Рада БНР тым не менш прымусіла бальшавікоў пераглядзець сваю палітыку ў адносінах да беларусаў.

***Анатоль Сідарэвіч***

## У КРЫЧАВЕ ПАЧАЎСЯ СУД НАД ГЕНЕРАЛЬНЫМ ДЫРЭКТАРАМ "КРЫЧАЎЦЭМЕНТАШЫФЕР"

**10 сакавіка суд Крычаўскага раёна пачаў разгляд крымінальнай справы ў адносінах да былога генеральнага дырэктара "Крычаўцэменташыфера" Леаніда Скоцкага.**

Крымінальная справа ў адносінах Леаніда Скоцкага выклікала вялікі грамадскі рэзананс у Крычаве, дзе "Крычаўцэменташыфер" з'яўляецца горадаўтваральным прадпрыемствам.

Леанід Скоцкі абвінавачваецца згодна ч.3 арт. 424 (злоўжыванне ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі), ч. 1 і 2 арт. 430 (атрыманне хабара) Крымінальнага кодэкса. Па дадзеных следства, Леанід Скоцкі незаконна атрымаў у агульнай колькасці 214 мільёнаў рублёў. Згодна следства, былы генеральны дырэктар датычны к 12 эпізодам пабораў грашовых сродкаў з прэмій працаўнікоў завода. Леанід Скоцкі, атрымліваючы заробак каля 30 млн. рублёў, не грэбаваў браць хабары ў 20 долараў, а таксама харчавацца ў завадской сталовай, не аплочваючы за гэта грошы.

Па інфармацыі незалежнай газеты "Вольны горад", абвінавачваны прызнае сваю віну, пакрыў нанесеныя страты і напісаў хадайніцтва аб памілаванні на імя кіраўніка краіны, якое не было задаволена.

Нагадаем, што генеральны дырэктар ААТ "Крычаўцэменташыфер" Леанід Скоцкі быў затрыманы восенню 2013 года супрацоўнікамі МУС і КДБ пры перадачы грошай. Леанід Скоцкі спрабаваў прысвоіць 40 мільёнаў рублёў, выдадзеных працаўнікам прадпрыемства ў якасці прэміі "за эканомію паліўна-энергетычных рэсурсаў" у першым паўгоддзі 2013 года.

Да свайго прызначэння на пасаду генеральнага дырэктара "Крычаўцэменташыфера" Леанід Скоцкі працаваў намеснікам старшыні Крычаўскага райвыканкама, на момант арышту ён таксама з'яўляўся членам Крычаўскага раённага выканаўчага камітэта. У 2012 годзе Леанід Скоцкі быў прызнаны "Чалавекам года" Крычаўскага раёна.

***Сяргей Семяновіч***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# "ПЯСЕЦ" ПАДКРАЎСЯ НЕЧАКАНА

*(Заканчэнне. Пач. на стар. 2)*

А дзе ж гэтыя грошы браць, калі эканоміка, дзякуючы мудраму кіраўніцтву, знаходзіцца самі ведаеце дзе? Зразумела, трэба выпрошваць новыя крэдыты.

Пазней жа можна і пабрахаць на "праклятых буржуінаў" з МВФ, якія будуць патрабаваць абмежаваць рост заробкаў, падвысіць аплаты за камунальныя паслугі, спыніць датацыі і субсідыі гаспадаркі. Бо гэтыя ж нягоднікі захочуць, каб ім пазычаныя грошы павярнулі. Ну а нашыя слаўныя ўлады, якія гэтыя грошы, як звычайна, "пратрахаюць" на падтрымку сельскай гаспадаркі, БРСМ, праваахоўных органаў, будаўніцтва лядовых палацаў і новых рэзідэнцый прэзідэнта, будуць ні ў чым "невінаватыя". Гэта ж капіталісты, свалачугі, не хочуць займацца дабрачыннасцю і проста падарыць нам гэтыя грошы, а хочуць, гады, каб мы ім іх жа долары яшчэ і павярнулі.

Праўда, мы самі чамусьці, калі пазычаем сябру ці суседу, таксама спадзяёмся, што ён грошы паверне, а не прап'е ці прагуляе…

Сітуацыя ў нашай роднай Магілёўскай вобласці наогул вельмі складаная. Ужо ў мінулым 2014 годзе валавы рэгіянальны прадукт зменшыўся на 2,5%. Зараз большасць прамысловых прадпрыемстваў вобласці літаральна выжывае, яны напалову стаяць, працуючы па 3-4 дні на тыдзень. Сітуацыя ў сельскай гаспадарцы не лепшая – па выніках працы за мінулы год страты АПК вобласці перавалілі за 200 мільярдаў рублёў. З 167 сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Магілёўскай вобласці 103, альбо 62%, былі стратнымі. У нашым родным Бялыніцкім раёне з шасці сельскагаспадарчых арганізацый з сістэмы мінсельгасхарчу ў мінулым годзе стратнымі былі тры, іх чыстыя страты склалі 4 094 мільёнаў рублёў. Між тым Бялыніцкі раён лічыцца адным з лепшых у Магілёўскай вобласці…

Зараз бялыніцкія чыноўнікі ў прыватных размовах кажуць пра тое, што ўжо бліжэйшым часам будзе заменены на сваёй пасадзе начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Бялыніцкага райвыканкама Аляксей Цапко, прыйдуць новыя кіраўнікі і ў некаторыя з прадпрыемстваў і арганізацый раёна. Аднак ці будзе з гэтага нейкі толк, я асабіста вельмі сумняваюся. Будаваць вялікія планы мы добра навучыліся, аднак без правядзення сапраўдных рэформ змена кіраўнікоў нічога не дасць.

***Іван Барысаў***

# РЭКЕТ ПО-КРУГЛЯНСКИ

*(Оконч. Начало на стр. 3)*

будут потрачены собранные в виде дани с рабочего люда деньги – «это тайна велика есть». Не потрудились чиновники от власти написать и проект, на который решили денежку собрать. Да я так думаю, что они с этой моделью работы и не знакомы. Потому что за последние годы единственное, что происходило в Круглянском районе, так это поэтапное закрытие предприятий без всяких объяснений не только перед занятыми на этих предприятиях работниками, но и перед населением района. Ну, не достойны мы знать правду об экономическом положении района!

Надо признать, что выбор г. п. Круглое местом проведения балагана под названием «дожинки» не вызвал особого восторга у местных аборигенов, потому что на «этом празднике жизни» круглянцы не надеются сильно повеселиться. У большинства народа нет для этого денег, так как большинство населения, особенно в сельской местности имеют «зарплату» менее 2 000 000 рублей. Пенсии так же «колеблются» у большинства в этих пределах. Особенно не разгуляешься.

При убогости нашего существования особенно кидается в глаза разгул объёма работ, который затеяли местные чиновники. Ремонт стадиона, библиотеки, РДК просто поражает. Выпиливание парка самыми варварскими методами не поддаётся описанию. И всё это при «страшных тротуарах», на которых можно сломать ногу. Запущенности улиц, которые располагаются вдали от главных. Но вряд ли на эти нужды потратятся собранные с народа деньги, хотя в решении и указано, что на благоустройство посёлка. Вряд ли мы увидим в местной газете «Сельскае жыццё» и на местном радио не услышим, как властные рэкетиры потратят собранные с людей деньги. Как сказала одна молодая мама, это у её ребёнка отобрали банан или яблоко, которое она могла ещё позволить купить своему ребёнку. И это уже не смешно! Легко распоряжаться убогими средствами людей, и так поставленных на грань выживания, если у тебя доход состоит из пару неплохих «зарплат» и пенсий, «заработанных» на госслужбе.

От себя лично хочется посоветовать районным чиновникам:

Господа! Если вам так хочется блеснуть перед руководством области в проведении областных «дожинок», пожертвуйте хотя бы по одной зарплате на это благое дело, ведь этот «праздник» вы готовите для себя. Это у вас будут ломиться столы в банкетных залах, играть музыка, плескаться бассейны. А для людей, которых вы сейчас обираете, он пройдёт серо и незаметно с картошечкой на столе и дешёвой колбаской. А многие не будут иметь и этого.

Помилосердствуйте, господа рэкетиры!!!

***Зинаида Милещенко***

## Фауна Белыничского района официально пополнилась новым видом

На прошедшем в конце февраля заседании Белорусской орнито-фаунистической комиссии в состав орнитофауны Беларуси включены 4 новых вида птиц: белобрюхий стриж, чайконосая крачка, плосконосый плавунчик и индийский горный гусь. Последний зарегистрирован на озере Черное, Белыничского района.

## Белыничский КБО – лучший в стране

Белыничский комбинат бытового обслуживания ОАО «Бытуслуги» признан лучшим в стране среди организаций бытобслуживания. Зная уровень зарплат на этом белыничском предприятии, невольно задаёшь себе вопрос – а как же обстоят тогда дела у худших предприятий в стране?

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. E-mail: boris196608@bk.ru. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 18.03. 2015 г. у 16-00.